– лапаў (лапароў) тэрыторыі, дык зразумела, што скандынаўская экспансыя кіравалася ў кірунку гусьцей заселеных аседлым земляробскім жыхарствам тэрыторыяў. Будучы акружаныя амаль з усіх бакоў вадою скандынавы здаўна былі дасканалымі будаўнікамі большых і меншых лодак. Дзеля свайго геаграфічнага палажэньня скандынаўская экспансыя павінна была пачынацца з мора, а тады або агранічывацца марскім узьбярэжжам з другога боку мора, або паглыбляць экспансыю ўглыбіню сухазем'я ўздоўж рэкаў і вазёраў. Практыка гэтай экспансыі была такая, што скандынавы стараліся апанаваць тэрыторыю пры помачы сеці апорных пунктаў – замкаў будаваных у важных стратэгічных пунктах.

Беларускія й іншыя славянскія летапісы нашых суседзяў, што апісывалі падзеі на нашых землях, вельмі добра апісываюць гэты працэс пасоўваньня Скандынаваў ад Балтыцкага мора ўглыб кантынэнту, спачатку праз жамойцкія, а тады беларускія землі. Паводле гэтых летапісаў, легендарны правадыр гэтай групы – Палемон, ідучы са сваім акружэньнем ад мора ўгару Нёману, дайшоў да ракі Дубісы й асеў там. Пасьля ягонай сьмерці, ягоныя сыны далей праводзілі экспансыю ў вярхоўе рэкаў. Адзін з сыноў, на імя Боркус, залажыў горад, дзе ў Нёман упадае рака Юра й назваў горад Юрборк, другі сын залажыў Коўню, дзе ў Нёман упадае Вільля, трэці сын пайшоў у гару ракі Невяжы (прытоку Нёману), далей угару Сэрвэты й Свэры, знайшоў выгоднае мейсца над возерам і залажыў замак Спэру. Іншы князь гэтай групы – Доспрунг, над ракой Сьвятой (прыток Нёману) пабудаваў Ваўкамір. Далей былі заложаны – Кернова над Вільлёю, Вільня над Вільлёю й Горадня над Нёманам. Пасьля гэтага пачаткавага пашырэньня ўздоўж рэкаў пачалося апанаваньне абшару між рэкамі й паўсталі замкі й гарады Ліда, Навагрдак, Старыя Трокі, а пазьней Новыя Трокі, Крэвы. Ясна, што нельга гаварыць аб нейкай выключнасьці закладаньня замкаў у першым пэрыядзе на рэках, а ў другім у міжрэччах, бо граніцы паміж гэтымі стадыямі зацёртыя.

* * *

Для Скандынаваў, удзельнікаў іншых экспэдыцыяў, характэрнай была адсутнасьць прывязанасьці да пэўнага мейсца – адсутнасьць адчуваньня прывязанасьці да сваіх каранёў (тэрыторыяльных). Для Скандынаваў на нашых землях – тое самае й на іншых землях, справа ўмейсцаўленьня іхняга галоўнага гораду, заўсёды была толькі праблемай утылітарнай, – як выгадней для кіраваньня – эксплаўтацыі. Для іх, у выпадку нашых земляў, не рабіла рожніцы – Кернова, Навагрдак, Трокі ці Вільня.

Добры прыклад гэтай скандынаўскай мэнтальнасьці можа быць выказаньне кіеўскага князя Сьвятаслава – Скандынава, ня гледзячы на ягонае славянскае імя:

„не падабаецца мне сядзець у Кіеве, хачу жыць у Пераяславе над Дунаем – там сярэдзіна зямлі маёй, туды сьцякаюцца ўсе багацьці."

* * *

Аднэй з тыповых рысаў Скандынаваў – удзельнікаў у вікінгу, гэта значыць у рабаўніча-гандлёвых і адкрыўчых экспэдыцыях была іхняя лёгкая моўная асыміляцыя з мясцовым насельніцтвам, моʼ лепш будзе сказаць з верхнім слоем гэтага насельніцтва. Вікінгі асеўшыя ў Нармандыі ў 911 годзе на працягу ста гадоў згубілі сваю мову на карысьць мовы французкай, мовы пануючай групы. Падобнае зьявішча наглядаецца ў экспансыі па Нёману. Прыйшоўшы на беларускую тэрыторыю яны хутка моўна зьбеларусізаваліся. Ці былі яны калі небудзь пераняўшы жамойцкую мову цяжка сказаць. У летапісах спатыкаем запісы словаў гавораных князямі, усе яны пабеларуску, так што няведама ці гэтыя князі наагул ведалі жамойцкую мову. У гістарычных жаролах я гэтага не знайшоў. Можа хто іншы знойдзе.

* * *

Пасьля Другой Сусьветнай Вайны былі праведзеныя больш сыстэматычныя, чым папярэднія археалягічныя раскопкі ў Горадні – царквы на Каложы гарадзенскіх замкаў. Як наступства гэтых раскопаў, Акадэміяй Навук СССР, у 1954 годзе была выдадзена кніга Н. Н. Вароніна пад загалоўкам „Древнее Гродно", у якой апрача цікавага й вартаснага фактычнага матэрыялу, знаходзяцца характэрныя для Расейцаў выказываньні. Напрыклад Воронін выказываецца:

"Нет никаких оснований для нелепой теории Едковского (кіраўніка перадваенных раскопкаў), что Гродно было основано в IX–X веку, ранее чем началась экспансия варяго-русского государства со стороны Киева".

З гэтых цытаваных словаў Вороніна гучыць выразная думка, што з пункту гледжаньня расейскага, гэта гэрэзыя думаць што магла быць нейкая скандынаўская экспансыя на нашых землях, перад тым, як заіснавала гэтая экспансыя з Кіеву. Гэтая думка навязаньня ўсіх падзеяў да Русаў з Кіеву выразна выступае ў гэтай кнізе, напрыклад:

"... сюда вела Великая улица. Эти имена очень напоминают названия типическия для топонимики древне русских городов."

Гэтая цытата адносіцца да Горадні. Нават не студыяваўшы праблемы назоваў вуліцаў адразу кідаецца ў вочы, што цьверджаньне Вороніна зусім неабаснаванае. Галоўная вуліца ў Вільні таксама называецца Вялікай, а Вільня-ж паводле расейска-савецкай міталёгіі не належыць да "древне русских" гарадоў. Галоўная вуліца ў горадзе Фленсбургу (Шлезьвіг – Гольштайн – Нямеччына), які ўжо ніяк нельга залічыць да "древне русских" гарадоў таксама называецца Вялікай (Grosse).

Фрагмэнты ўпрыгажэньняў знойдзеныя падчас раскопкаў у Горадні вельмі напамінаюць тыповы скандынаўскі арнамэнт, які, як ведама, складаўся з пераплеценых стужкаў. Там-жа знойдзена некалькі пярсьцёнкаў з рунічнымі знакамі. Варонін сьцьвярджае аналёгію забудовы старой Горадні з забудовай Старой Ладагі. Трудна прыпусьціць, што тут мог быць бязпасярэдны ўплыў на так вялікую адлегласьць, ды й чаму-б мелі горадзенцы пераймаць са Старой Ладагі, больш праўдападобна, што й адны й другія карысталі з тае самае крыніцы. Варонін падчырківае таксама аналёгію знойдзеных падчас раскопкаў у Горадні драўляных мячоў да мячоў знойдзеных у Старой Ладазе й Ноўгарадзе. Аналёгія будзе зразумелай, калі прымем пад увагу, што Старая Ладага была апорным пунктам на шляху з Варагаў у Грэкі. У гэтай-жа кнізе Варонін піша, што папярэдні раскопывальнік Едкоўскі дайшоў да правільнага вываду, што галосьнікі – амфоры ўбудаваныя ў сьцены царквы на Каложы рожныя ад пскоўскіх і ноўгародзкіх. Мяне дзівіць толькі тое, што высока кваліфікаваны спэцыяліст, як Варонін, не падумаў аб параўнаньні галосьнікаў каложскай царквы з галосьнікамі швэцкіх і данскіх цэркваў. Тэма цікавая, але належыць да тэмаў у Саветах забароненых.

У гэтай самай кнізе (ст.186) Варонін піша, што архітэктурныя асаблівасьці царквы на Каложы ў Горадні ня маюць аналёгіяў у іншых раёнах Русі. Цікава, што навуковец Варонін не зацікавіўся тым што такія аналёгіі могуць быць таксама ў іншых месцах, зусім не на Русі.

* * *

Было ўжо ўспомнена, што скандынаўскі альфабэт – футгарк, меў вялікае застасаваньне ў магіі. Выглядае, што тое, што некаторыя называюць крыжом Ярылы, ёсьць нішто іншае, як рунічны знак на азначэньне гуку „а" ‡, як было было ўжо ўспомнена сымбаль агульнага паняцьця багоў. Існуе вялікая разнаітасьць у рунах у рожных краёх і ў рожным часе. У швэцка-данскім укладзе рунаў двухкрыж часамі азначаў гук „а", але ў адным ангельскім кодэксе быў ужыты для гуку „г", хаця ва ўсіх іншых рунічных альфабэтах ужываецца руна ᚺ ці ᚻ.

* * *

Знак, што ўжыты на гэрбовым шчыце сям'і Сапегаў ‡ быў апісаны ў вершы Андрэя Рымшы й зьмешчаны ў Літоўскім Статуце, выданьня 1588 году:

"Въ тых же геръбехъ посредку есть стрела з крестами
Двема, а третий блиско, осажоному лунами,–
Тые знаком, ижъ они болш для хрестианства
Клали здоровье свое, не смотречи паньства."

Ужо даўно, перад тым часам калі быў выданы Статут (1588) было забыта значаньне рунаў, нават у тым асяродку, дзе яны калісьці ўжываліся й дзеля гэтага Андрэй Рымша дае сваю панігірычна-паэтычную інтэрпрэтацыю цэнтральнага знаку гэрбу Сапегаў. Мае веды ў галіне гэральдыкі вельмі скромныя й дзеля гэтага зацытую ў гэтай справе спэцыяліста:

International Herldry, by L. G. Pine, p.175.

„Thus the Sapieha family had for its blazon an arrow-like object crossed by two straight lines on the shield. This design could not be heraldically described, but it is quite likely to be derived from the old runic symbols the origin and meaning of which had been lost by the fourteenth century.

„.... The arrow-like sign was the emblem of the Norse war god and this was combined with other runic signs."

Выказаньне вышэйпаданае вельмі цэннае, але не абыймаючае ўсяе праблемы, бо шляхоцкія гэрбы такога тыпу ня ёсьць нейкім выняткам, што існуе толькі ў гэрбе Сапегаў. Напрыклад падвойны крыж мае ў гэрбе род Сьвенчыцаў, У гэрбе Касьцешаў фігуруе знак падобны да гэрбовага знаку Сапегаў – страла з аднэю папярэчкаю й зьнізу стралы знаходзіцца падстава, такая самая як заканчэньне стралы ‡. Род Голубаў мае знак у форме лацінскай літары ігрэк з аднэю папярэчкай Y. Гэрб роду Яцынаў мае на шчыце стралу й побач няпоўны падвойны крыж ᛏ ‡. У гэрбе роду Прус знаходзіцца няпоўны падвойны крыж ‡. Знак роду Крычэўскіх мае стралу зьвернутую ўніз ↓. Найцікавейшы знак маем у гэрбе роду Гэйшаў, да якога належаць сем'і Дрыдаў, Эльяшэвічаў і Орвідаў. Тут на палове гэрбовага шчыту маем з правага боку (ад гледача) молат Тора, аб якім было ўспомнена пры аглядзе скандынаўскай міталёгіі. Гэрбоў падобнага тыпу ёсьць больш і гэта дазваляе зрабіць высноў аб скандынаўскім паходжаньні гэтых знакаў. Сям'я Бурбаў ужывае ў гэрбе ᛇ – руну на азначэньне гуку „э". Бязумоўна можна спаткацца з закідам, што вышэй апісаныя й іншыя гэрбы пазьнейшага паходжаньня й дзеля гэтага нельга іх навязываць да скандынаўскіх рунічных знакаў. Цікава дзеля гэтага пазнаёміцца з выказываньнем Яна Якубоўскага зьмешчаным у №7 Працаў Варшаўскага Навуковага Таварыства з 1912 году. Падаю ў перакладзе з польскае мовы гэтае выказываньне:

„Пазьнейшая літоўская хроніка расказывае, што літоўскія паны абураныя на падступныя махінацыі Палякоў адасьлалі ім свае гэрбы, што былі атрыманыя ў Городле." Дадае пры гэтым, што „вярнуліся да сваіх старых гэрбаў. Гэрбы гэныя былі сымбалем братэрства з Палякамі. Калі братэрства гэтае мела быць сарванае, дык трэба было гэрбы адаслаць Палякам. Застацца аднак бяз гэрбаў літоўскія паны не маглі. Не маглі нават прызнаць, што перад вуніяй з Польшчай, продкі іхныя ніякіх гэрбаў ня мелі. Для ратаваньня свайго гонару, сваіх радоў, пастанавілі ўскрасіць а фактычна стварыць літоўскія гэрбы з часоў перад вуніяй у Городле. Ці гэтая праца была зробленая ўжо тады, ці пазьней у XVI веку, ня ведаем."

Запраўды мы ня ведаем, але сам факт, што ў гэтых гэрбох аказаліся рунічныя знакі й молат Тора дастаткова ясна гаворыць аб існаваньні старой скандынаўскай традыцыі, я прынамсі іншага выясьненьня ня ведаю.

* * *

Довад на немагчымасьць паходжаньня літоўскіх князёў з Жамойцаў робіцца ясьнейшым, калі пазнаёміцца з характарам Жамойцаў. З многіх літэратурных і навуковых апісаньняў характару Жамойцаў, найлепш уняў гэта вядомы навуковец Александар Брюкнэр, які пісаў, што Жамойцы, калі гэта адносіцца да ніжэйшых слаёў, дык вызначаюцца кансэрватызмам, але вядучы слой вызначаецца вялікай ініцыятыўнасьцяй у вялікім дзяржаўным маштабе.

Ужо здаўна былі спасьцярожаныя псыхалёгічныя рожніцы паміж гэтымі двума слаямі й на гэтым фоне паўставалі спробы вытлумачэньня гэтага зьявішча, пачынаючы ад вываду літоўскіх князёў з Рыму ў XVI веку. Гэтая кароткая праца дае маё вытлумачэньне гэтага зьявішча.

* * *

Заканчываючы гэты кароткі канспэктыўны агляд праблемы паходжаньня літоўскіх князёў, хачу сказаць, што маю й надалей цікавіцца гэтай праблемай, бо думаю што мамэнтаў, што прамаўляюць на карысьць прадстаўленай тэзы ёсьць больш, а ўжо прадстаўленыя вымагаюць паглыбленьня й пашырэньня. Кожная з парушаных праблемаў можа быць прадметам дакторскай працы. Найлепш гэтай праблемай магла-б заняцца

*(працяг на 5-й бачынцы)*

# 400-ГОДЗЬДЗЕ ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЭРСЫТЭТУ 1578-1978

В. ПАНУЦЭВІЧ

*(Пачатак і працяг у №№18–20)*

## ГОРАДЗЕНСКАЯ МЭДЫЧНАЯ АКАДЭМІЯ (1776–1781)

*(Працяг з 20-га нумару)*

Як ведаем з папярэдніх нашых нарысаў, *Віленская Акадэмія* да 1776 г. ня мела *мэдычнага факультэту,* хоць Сьцяпан Баторы ў сваёй устаўной грамаце (1578) аб заснаваньні Віленскай Акадэміі, назваў у пераліку факультэтаў і мэдычны. Сталася гэта таму, што ў той час Езуіты ня мелі сваіх мэдыкаў так у Польшчы, як і ў ВКЛ(Вялікім Княстве Літоўскім). Другой прычынай былі бязустанныя войны з Масквой, Турцыяй, Швэцыяй, Даніяй, Прусіяй, страшэнныя эпідэміі, якія міліёнамі касілі насельніцтва. І толькі ў апошняй чверці 18 ст. даканаў гэта знаманіты эканаміст і арганізатар, дыплямат і палітык *Антон Тызэнгаўз*[1].

Капітальную працу аб дзейнасьці А. Тызэнгаўза ў ацалелых землях ВКЛ пасьля Маскоўскага захопу (1772), пры ўдзеле Прусіі й Аўстрыі, напісаў праф. гісторыі Віленскага Ўнівэрсытэту (1921–1939) Ст. Касьцялкоўскі, беларус па паходжаньні (з Горадні), ды выдаў яе на эміграцыі, Лёндан, 1970. Двутомная гэтая праца (1255 бачын, фармат 70x90) хоць напісаная ў польскай мове, ёсьць знамянытым творам беларускага вучонага й дасьледніка.

Паводля праф. Ст. Касьцялкоўскага справа Тызэнгаўза ў арганізацыі *Мэдычнай Акадэміі ў Горадні,* і выпіска вучонага прафэсара з Францыі Эмануіла Жылібэрта адбылася неспадзявана. *Тадэвуш Дайнаровіч,* Рэчыцкі харужы ды адзін з блізкіх людзей А. Тызэнгаўза, правёў выведнае падарожжа ў гадох 1773–1775 з даручэньня свайго кіраўніка. Быў у Гановары, Амстэрдаме, Гамбургу, Лёндане, Бордо, Парыжы, Ліёне. Быў таксама ў Італьі(Люкка). Па дарозе сустрэўся зь Якубам Бэку. Зь ягоных лістоў да Тызэнгаўза вынікае, што аснаўной ягонай місіяй было вывучэньне на Захадзе вадзяной турбіннай сілы, дзеля выкарыстаньня яе ў ВКЛ, для пабудовы густой сеткі мануфактурных фабрык шырокага засягу. У гэтым падарожжы Т. Даўнаровіч сытыкнуўся з Жылібэртам. У канцы красавіка 1775 г. з французкага Ліёну, Т. Даўнаровіч так пісаў да Тызэнгаўза: „Наведаў я тут у Ліёне вэтэрынарную школу, аб якой можна сказаць, што яна гэткая, як у Парыжы.” А. Тызэнгаўз захапіўся гэтай весткай. Ен зараз-жа падпісаў (9 травеня 1776 г.) ў Горадні, тагачаснай сталіцы ВКЛ, умову з прыехаўшым праф. Жылібэртам. Умова ў скароце гучэла наступна:

„Я Эмануіл Жылібэрт, забавязваюся ў наступным:

1) На працягу 10-ці год аддам усе свае сілы, каб у ВКЛ заснаваць школы лекарскую й вэтэрынарыйную дзеля публічнага дабра...

2) Здольных вучняў буду вучыць дваякай мэдыцыны (лекарскай і вэтэрынарскай), а пасьля заканчэньня навукаў, падрыхтую да выконваньня фахова функцыяў добрых лекараў.

3) Адносна ўсіх хворых на тэрыторыі ВКЛ, калі зойдзе патрэба маёй кансультацыі, аддам усе мае стараньні, каб ім дапамагчы. Буду служыць сваёй апекай і радай для мясцовых лекараў і хірургаў, калі зойдзе патрэба...

4) Асновы вэтэрынарыі апрацую ў падручніку лацінскім.

5) Наладжу Батанічны Сад для лекарскай школы.

6) Наладжу Музэй дзеля навучаньня Натуральнай Гісторыі з фондаў Яго Вялікасьці Скарбніка ВКЛ. (Тызэнгаўза).

7) Гісторыю прыроды ВКЛ, асабліва ў дачыненьні Батанікі, земляробства й мінэралёгіі, буду апрацоўваць у Часапісе *Горадзенскай Акадэміі – „Эфэмэрыдах”.* Адборных студэнтаў Горадзенскай Акадэміі, прадстаўленых мне, буду ўводзіць у глыбокія студыі так лекарскія, як і прыродаведныя...”

Яго дастойнасьць грабя Тызэнгаўз у карысьць да Жылібэрта забавязаўся ў наступным:

1) Пачынаючы ад дня 1 жніўня 1775 г. (даты выезду зь Ліёну) за кожны год працы публічнай будзе выплачаная сума 125 залатых паводля французкага рахунку, што раўняецца паводля польскага разьліку 280 злотых...

2) Каралеўскі скарб прызначыць дзеля прыватнага карыстаньня доктара (Жылібэрта) адпаведнае для яго становішча плату, жыцьцё, памешканьне, апал, сьвечкі й усякія іншыя патрэбы. Для жонкі названага доктара й для дзьвох іх служанак вызначаецца ардынарыя водля далучанага адумыснага рахунку.

3) Для патрэбаў названага прафэсара ў канюшнях Падскарбніка будуць стаяць на пагатове на кошт публічны пара коней.

Мы ніжэй падпісаныя асобы прымаем на сябе ўсе названыя забавязаньні ды сваімі пячаткамі пацьвярджаем.

У Горадні дня 9 травеня, 1776 г.
Падпісаныя:

А. Тызэнгауз, Падскарбнік Надворны ВКЛ.
Жылібэрт, прафэсар мэдыцыны.

Розныя вучоныя таго часу парознаму называлі гэтую Акадэмію. Горадзенскі Каляндар на год 1778 (у польскай мове) дае рэпартаж урачыстага адкрыцьця *Лекарскай Акадэміі* ў Горадні 15–17 верасьня 1777 г. ў прысутнасьці Караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага:

„15–17 верасьня 1777 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, Манарх абодвых народаў Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага наведаў Горадню з нагоды адкрыцьця тут Лекарскай Акадэміі. Аб гэтай вялікай урачыстасьці пісалі газэты й часапісы, так у ВКЛ, Польшчы й замежныя, дык тут ня будзем іх паўтараць. Коратка скажам: успамянуць 15 дзень верасьня – гэта ажывіць нанава той агромністы энтузіязм Горадні й ваколіцаў, а разам з гэтым і ўсяго ВКЛ. А дзень 17 верасьня 1777 красаваўся ўзьнятымі надзеямі на будучыню...

Перш ёсьць здароўе чалавека найбольшай патрэбай Дзяржавы. *Лекарская Акадэмія* мела высокі гонар быць адкрытай сваім манархам. Па супачынку, пасьля падарожжа, у радасным настроі, што ён адчыняе дзьверы навукі для сваіх падуладных, манарх пайшоў адведаць *Батанічны Сад* пры *Горадзенскай Мэдычнай Акадэміі,* утвораны паводля пляну слаўнага батаніка *Лінхэ* (француза), выклікаў чаруючае ўражаньне. Тут было пасаджана гадоў два таму назад больш за 2000 разнастайных зёлак: роднага з прасторы ВКЛ паходжаньня – 900, замежных – 1 200.

Калекцыя розных мінэралаў налічвала да 10 тысяч розных пародаў, знойдзеных у ВКЛ, ня лічачы крысталізацыі карпацкай ды замежных.

Пасьля пахвалы пры візытах, пахвалах самога манарха, яго павялі ў далейшы аддзел: Зьвяроў і Чалавека.

Hic locus est, ubi mors gaudet succurrere vitae,
Oto jest miejsce: Zdrowia slug prawdziwych,
Gdzie nawet smierc ratuje żywych.

У беларускім перакладзе гучыць гэта месца прыблізна так:

Вось тое месца, дзе нават сьмерць славіць жыцьцё й здароўе ды ўступае перад моцным духам...

Пасьля дастойны Госьць аглядаў мануфактуры так на Гародніцы (правы прыток Нёмана ў Горадні (цяпер занікаючы ручай) і ў Ласосьне, паў мілі напоўнач ад Горадні, над рэчкай такога-ж назову. Усюды захапляўся быйным іх ростам і выдатнай прадукцыяй. Распытваў аб паасобных машынах і ўладжаньнях, інструмэнтах і сам зь вялікай увагай наглядаў ход прадукцыі.

Адведаў мануфактуры: суконную, шоўкавую, палатняную, золатам тканыя паясы й шмат іншых варштатаў, усё высокаацэньваючы й хвалячы. На апошку Дастойны Госьць выказаў сваю вялікую радасьць, бачачы ўсюды здольных сваіх майстроў, майстрыхаў, арганізатараў, собскіх талентных фабрыкантаў, прадукцыя якіх стаіць на ўзроўні эўрапэйскай культуры й тэхнікі. За ўсё шчыра дзякаваў, абяцаючы ўзнагароды лідарам, арганізатарам, вынаходнікам і вучоным Вялікага Княства Літоўскага. Ад'язджаючы, зьвярнуўся да дырэктараў, каб наладзілі ўсім падуладным багаты банкет, каб народ памятаў, што Кароль іх адведаў як Бацька, кахаючы свае дзеці.”

Гляньма цяпер на выказваньні розных замежных вучоных, якія ў тым часе наведвалі Горадню ды Тызэнгаўзкія культурныя, мануфактурныя й навуковыя ўстановы. Так Ян Бэрнуілі, ведамы матэматык, у сваёй паваротнай дарозе зь Пецярбурга да Бэрліна (1778) наведаў Горадню, а пасьля ў VI томе сваіх успамінаў пісаў: „Горадзенская Лекарская Школа, якую я наведаў (1778 г.) – гэта знамянітая ўстанова, якая мудраму Станіславу Аўгусту прыносіць трывалую пахвалу, бо дасюль, асабліва ў кутках краіны, убога прадстаўлялася лекарская навука, а нават у сталіцы ВКЛ (Горадні), амаль толькі чужынцы лекары абслугоўвалі хворых...”

„Цяпер парогі ўжо паламаныя. Там ужо заснаваная Горадзенская Лекарская Акадэмія, якая паступова здолее ў хуткім часе разгарнуць сваю дзейнасьць. Цяпер там працуе пакульшто праф. Жылібэрт. Студэнтаў ёсьць 15 чалавек, якія твораць дзьве клясы: (а) асабліва здольныя й талентавітыя са шляхоцкага або мяшчанскага паходжаньня, кандыдаты на поўных лекараў у гарадох, (б) іншыя атрымоўвалі дастатковую навуку, каб стацца правінцыяльнымі лекарамі й хіургамі...”

Ангелец Вільям Кокс, які ў 1779 г. праязджаў праз Горадню й наведаў Горадзенскую Акадэмію пісаў, што ў той час 10 студэнтаў спэцыялізаваліся ў агульнай мэдыцыне і 20 у хірургіі. Такім чынам абедзьве заходнія крыніцы паказываюць лікавы прагрэс: 5 новых студэнтаў за адзін год.

У гэтым-жа годзе Жылібэрт прыняў Мэнарда на прафэсара французкай і лацініскай моваў. Ведаючы добра польскую мову, ён друкаваў падручнікі для Акадэміі.

Апрача названых памагаў у выкладах чыста лекарскіх лекар горадзенскі Вірыён, якога Жылібэрт называе „медікус адіюнктус”. 28-га ліст. 1778 г. ён зацьверджаны быў Скарбовай Камісіяй з тытулам: „рэгімэнтфэльчэр скарбовай харугвіі”. Апрача яго ў Акадэміі Горадзенскай навучаў малаведамы праф. Мынтс (Белінскі, І.с., т.ІІІ), аб чым успамінае Пачабут у сваім лісьце да Тызэнгаўза з 1779 г.

Рэктарам Горадзенскай Акадэміі быў харужы рэчыцкі й адміністратар дзяржаўных эканоміяў ВКЛ Тадэвуш Даўнаровіч. Акадэмія знаходзілася тымчасова ў дзераўляным будынку ў парку батанічным, недалёка Горадзенскага Тэатру. У гадох 1777–1781 ішлі рэканструкцыйныя работы ў палацы князёў Чацьвертынскіх у тым-жа парку. Нажаль, яны ня былі закончаныя ў сувязі з палітычным крахам Тызэнгаўза. Аб гэтым крыху пазьней...

Што да разьвіцьця самой Акадэміі то яе тэмп быў павольны. Усё чаплялася адно за другое. Будынак, у якім адбываліся пачаткі быў малы, ня мог памясьціць большую колькасьць студэнтаў, даць ім інтэрнаты, навучальныя кабінэты, бібліятэкі й дасьледчыя працоўні. Усё гэта разумелі арганізатары Акадэміі, ды пачыналі працу ў цяжкіх умовах. Можна прыблізна падаць агульны лік студэнтаў Акадэміі ў 1780 г. на 60–70, калі Акадэмія была перанятая Галоўнай Школай ВКЛ у Вільні, дзе сталася асновай Медычнага Факультэту Галоўнай Школы. З гэтых заснавальнікаў Мэдычнага Факультэту ў Вільні слаўнымі сталіся Андрэй Матусэвіч і Язэп Ясінскі. Першы зь іх быў прафэсарам акушэрыі ў Галоўнай Школе, а пасьля ў Віленскім Унівэрсытэце (1803), дзе заснаваў акушэрную клініку. Другі, Ясінскі, напісаў і выдаў у Вільні слаўную ў сваім часе кніжку: „Антрапалёгія – аб асаблівасьцях чалавека фізычных і маральных...”

Выхадцам з Горадзенскпй Акадэміі быў Бэрэнт Міхеловіч, жыдоўскага паходжаньня, які пасьля вучыўся ў Вільні дзе скончыў мэдыцыну. Пазьней у Каралеўцы Пruскім атрымаў дыплём *Доктара Мэдыцыны* ды быў надворным каралеўскім кансілярам (Ст. Панятрўскага)...

Жылібэрт быў сапраўды чалавекам вялікіх палётаў. Пасьля адхіленьня Тызэнгаўза ад улады, ён пераехаўшы з Горадні ў Вільню там сарганізаваў Батанічны Сад. Пры Галоўнай Школе ВКЛ адкрыў на базе Горадзенскай Акадэ-

міі Мэдычны Факультэт. Тут ён стаў супольна з Пачобутам мантаваць Віленскую астранамічную абсэрваторыю.

Пры Горадзенскай Акадэміі йснавала й *Бібліятэка.* Бачыў яе Бэрнульлі ў 1778 г. ды захапляўся: „бэзондэрскостбар". Знайшоў у ёй парыскую Энцыкляпэдыю й мноства найнавейшых і важных твораў, выдадзеных у Францыі й Нямеччыне з галіны мэдыцыны й прыродаведных навукаў. Сярод іх знайшоў і першы раз мог трымаць у сваіх руках працу венскага вучонага „Флёра Аўстрыяка". А найбольш захапляўся меднымі матрыцамі (300 штук) розных карысных расьлін, зробленыя на загад французскага караля Гэнрыка IV пад наглядам прафэсара батанікі й анатоміі Рышые Бэлявал'е, ды якія ніколі ня былі друкаваныя. Купіў іх і прывёз у Горадню Жылібэрт...

У часе адыходу Тызэнгаўза ад улады ў 1780 г. Горадзенская Акадэмічная Бібліятэка налічвала 3000 цэнных і 500 асабліва рэдкіх і каштоўных пазыцый. Увесь гэты скарб быў перавезены ў Вільню ды далучаны да Віленскай Акадэмічнай Бібліятэкі...

Горадзенская Бібліятэка была надзвычай цэнным здабыткам Віленскай Акадэміі асабліва ў галіне гэрбарызацыі беларускай флёры ў аколіцах Горадні (1776 год), а ў наступных гадох у ваколіцах Берасьця, Беластоку, Несьвежа, Шчорсаў, Вільні, Вакі, Трокаў, Мэрэча й Вішнева. У гэтых навукова-дасьледчых экскурсіях бралі ўдзел усе студэнты Горадзенскай Акадэміі, якія выкрывалі вельмі цэнныя расьліны. Яны ў свабадзейшым часе, асабліва ў вакацыйным пэрыядзе, праходзілі ў пошуках расьлінаў зь лячнічамі якасьцямі балоты, багны, пушчы й іншыя недаступныя месцы. Вынікі дасьледваных прастораў друкаваліся ў часапісе „Флёра Літуаніка", што выходзіў у Горадні. За час свайго побыту ў Горадні Жылібэрт падрыхтаваў да друку тры навуковыя працы й 16 драбнейшых артыкулаў, якія былі часткова друкаваныя ў пазьнейшым часе.

Апрача гэтага Жыліберт прыгатаваў да друку карту фіта-графічную на аснове картаў эканамічных геамэтраў, якая аднак ня была апублікаваная. Далей два зельнікі: „Гортус Гродэнсіс" – апісаньне батанічнага агароду ў Горадні й „Гэрбарыум Гродиэнсэ" – апісаньне расьлінаў у ваколіцы Горадні.

Іншай галінай дзейнасьці Жылібэрта было ўтварэньне пры Горадзенскай Акадэміі Дому для радзільных матак і Школы для акушэрак. Беспасярэдняе кіраўніцтва над гэтымі ўстановамі мела акушэрка, выпісаная з Парыжа. У акушэрнай Школе спачатку вучылася 5 жанчынаў, выбраных з эканоміяў дзяржаўных Тызэнгаўза. Спачатку былі цяжкасьці дзеля няведы францускай і лацінскай мовы, але хутка ўсе перашкоды былі пераадоленыя, ды ўсе студэнткі выбіліся на добрых мэдсясьцёр і палажнічак, а пасьля яны зарганізавалі ў Вільні пры Ўнівэрсытэце такіяж самыя ўстановы...

А як прастаўлялася справа прыватных лекараў у Горадні й Горадзеншчыне? Падробных вестак, ці дасьледчых студыяў амаль няма, ці лепш сказаць, яны не перахаваліся. Аднак тыя весткі, якія перахаваліся, вымоўна сьведчаць, што справа была на добрай дарозе ды ў добрых руках. Так Тызэнгаўз у сваіх лістох піша да усіх лекараў у Горадзенскіх эканоміях і шпіталях, каб яны сумленна выконвалі свае абавязкі. Таксама Жылібэрт, пакліканы на каралеўскую службу дзеля заснаваньня Горадзенскай Мэдычнай Акадэміі, быў забавязаны згодна з традыцыяй ВКЛ, выконваць абавязкі публічнага лекара ў сваёй Акрузе. Далей ведаем, зь іншых крыніцаў, што алюмны Акадэміі, мусе́лі адбываць сваю практыку ў шпіталях публічных...

Такім чынам Горадня, як Сталіца ВКЛ, мела ўжо публічных лекараў і перад прыездам Жылібэрта. Так напрыклад у 1765 г. ведаем пра доктара мэдыцыны Зэліка Салямонавіча (жыд. паходжаньня), які раней працаваў у Расенах на Жамойці, ды там выявіў свае высокія здольнасьці.

Усё гэта сьведчыць, што Тызэнгаўз з самога пачатку сваёй вялікай дзяржаўнай дзейнасьці ў Горадні, сталіцы ВКЛ, ня мог перш не наладзіць тут мэдычнай публічнай службы, яшчэ перад прыездам Жылібэрта. У акце прызнаньня Тызэнгаўзу права на пераняцьце езуіцкай Фарнай Аптэкі з дня 29 кастр. 1773 г. маем цікавую вестку, што „ў Гародніцы і ў горадзе Горадні адкрытыя ўжо лязарэты." Адзін зь іх пры „Палацы Каралеўскім" (Станіслаўоўскім) называўся „Каралеўскім шпіталям", зьвязаным з Горадзенскай Акадэміяй, як „клініка акадэмічная".

У 1774 г. у Горадні дзейнічаў, паводля Акт. Варш. Тав. др Лёрыер, загадчык публічнай Аптэкі, мэд. Службы й ваен. Шпіталя.

20 ліпеня 1775 г. эканамічная адміністрацыя Горадні падпісала кантракт з „доктарам мэдыцыны" Готэрдам Гельцанам, які забавязаўся лячыць „людзей Каралеўскай эканоміі ў Горадні ды ў Гародніцы, ды таксама ў дэпартмэнтах адміністрацыі, Горадзенскага Гарнізону, ды належачых да мануфактурнай Адміністрацыі." Апрача гэтага кантракт даваў права яму „браць ад заграцічнікаў аплаты за мэдычна-лекарскія паслугі". Да абавязкаў названага „доктара" быў нагляд над Аптэкай і вайсковымі лазарэтамі. Атрымоўваў за ўсе абавязкі ў год 1800 злп, і апрача гэтага, кватэру пры „Аптэцы", апал і стоража, ды за абслугоўваньне вайсковага рэгімэнту, дадатковых 150 злп...

У 1779 г. крыніцы ўспамінаюць аб Я. Плентцу, які меў тытул: „Оберштабсхірург". Праўдападобна штабны хірург Горадзенскага гарнізону...

Што датычыць аховы здароўя ў дзяржаўных эканоміях таго часу, могуць служыць даныя дакумантальныя з таго часу з Шаўлеўскай Эканоміі. Пайменна 7 ліст. 1777 г. ў Шаўлях быў закантрактованы з пэнсіяй 720 злп на год лекар Ян Валянскі, абавязкам якога было лячыць і даваць ахову мэдычную ўсім фабрыкантам, рамесьнікам, канцэлярыстым і памочнікам ва ўсёй Эканоміі. Лекі мелі быць пакрытыя са скарбу Эканоміі ды меў ён падпарадкавацца Жылібэрту, як Галоўнаму лекарскаму наглядніку ды кансыліятару Яго Каралеўскай дастойнасьці, якому забавязваўся рэгулярна перасылаць рапарты аб стане здароўя гістарычнай Літвы. Так пры аднаўленьні кантракту з Валянскім у 1780 г. і вызначэньні яму 3000 злп „на мэдыцыну патрэбную да курацыі", даведваемся, што ў гэтым часе утвораныя ўжо былі лазарэты ў паасобных губэрнях, пад наглядам др. Валянскага, які 7 ліст. 1777 г. быў закантрактаваны да гэтай эканоміі з пэнсыяй 40 чырв. зл. або 720 злп у год.

Што тычыцца *Аптэкі,* то існавала яна ў Горадні ад вельмі даўняга часу пры Езуіцкай Калегіі ў тым-жа самым будынку Фарным і давала Калегіі сталы гадавы прыбытак 700 зл. Эканамічная Адміністрацыя аж да 1773 г., гэта ёсьць касацыі Езуітаў, сваёй аптэкі ня мела. У часе касацыі Рэктар Езуіцкай Акадэміі актам з 20 кастрычніка 1773 г. перадаў Аптэку разам з усімі мэдычнымі ўладжаньнямі, забудовамі й маёнткамі Антону Тызэнгаўзу, падскарбніку каралеўскаму пад умовай:

(1) каб Езуіты ў Горадзенскай Калегіі, жывучыя надалей, атрымоўвалі бязплатна ўсякія лякарствы;

(2) каб усякія даўгі, зробленыя ў Каралеўцы й Горадні на склад мэдыкамэнтаў у названай Аптэцы, былі аплачаныя.

Аптэка была неабходным прадпрыемствам у Індустрыі Тызэнгаўза разам зь лекарскімі памочнікамі ды санітарамі. У пару Жылібэрта ў Горадні іх было некалькі, нажаль, ведаем імёны толькі двух: Вірыёна й Мінца. Ужо з тытулу Жылібэрта вынікае гэта: „Рэгіс Полёніе Консільярыус нэк нон мэдікус ордынарыус, Магні Дукатус Літуаніе фізікус", што часта рабіў Жылібэрт у сваіх друкаваных працах...

Хутка крыху пазьней, калі палітычны наступ апазыцыйнай партыі на Тызэнгаўза стаўся больш агрэсыўны, адносіны паміж ім а Жылібэртам значна пагоршыліся. Сталася гэта ў гадох 1778–1780. Аж нарэшце ў травені 1780 г. Жылібэрт, нікому не сказаўшы ні слова, насупраць дзясяцігадовага кантракту, пакінуў тайна Горадню ды апынуўся ў Варшаве... Тут ужо асеў на некаторы час, але ў Літву не вярнуўся, бо ведаў, што ягоная кар'ера скончаная... Тут ужо не памаглі просьбы Ўраду ВКЛ ды нават караля Станіслава Панятоўскага... Такім чынам не збыліся многія ягоныя праекты ды падрыхтоўкі, як напрыклад, арганізацыя астранамічнай абсэрваторыі ў Горадні (у Гародніцы) пры ўдзеле прафэсара Віленскай Акадэміі кс. Фр. Мікант-Нарвойша, які ад 1775 г. асеў у Горадні ды рабіў тут падрыхтоўчыя работы: як астранамічныя памеры розных мясцовасьцяў ВКЛ, тварыў карты, зарысоўкі й быў прызначаны на дырэктара будучай абсэрваторыі. Дзеля гэтых мэтаў ён быў высланы Тызэнгаўзам у Бэрлін на астранамічныя студыі ў Бэрлінскай Абсэрваторыі...

Прамотарам передавой навукі й поступу ў ВКЛ у тым часе быў бязумоўна *Антон Тызэнгаўз.* Ен ня толькі правёў навуковую, эканамічную й сацыяльную рэвалюцыі на абрэзанай ворагамі лапінцы ВКЛ, але выявіў ды даваў на прыкладах веліч генія Беларускага Народу...

*(Далей будзе)*

-----

[1]) Антон Тызэнгаўз (1733–1785), канюшы ВКЛ з 1764 г., падскарбнік надворны Літоўскі ад 1765 г. Кіраваў дзяржаўнымі эканоміямі ВКЛ. Зь ягонай ініцыятывы ды пад ягоным кіраўніцтвам былі зарганізаваныя ды ўрухомленыя ў ВКЛ фабрыкі й мануфактуры, фаховыя школы з Корпусам Кадэтаў на чале, друкарні й выдавецтвы газэтаў, часапісаў і навуковых падручнікаў, Батанічны Сад, Горадзенскі Тэатр, фабрыка залатых слуцкіх паясоў. Быў прыхільнікам караля Станіслава Панятоўскага ды праціўнікам Барскай Канфэдэрацыі.